УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44
К19

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 37
Серыя заснаваная ў 2009 годзе*

**Кандратаў**, М.
К19 Кроплі дажджу : паэзія / Мікола Кандратаў. – Мінск : І. П. Логвінаў, 2013. – 98 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 37.)

ISBN 978-985-562-049-6.

Кніга “Кроплі дажджу” ёсць у пэўнай ступені працягам сумна-лірычнага пераасэнсавання свету аўтарам, пачатага ў папярэдняй кнізе “Вершы і зоркі”. Але ён верыць у тое, што кожная кропля можа бліснуць сонечным промнем.

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44

**ISBN 978-985-562-049-6**

* * *

*Што можна новага сказаць*
*у свеце, што стары як мора,*
*калі пагас былы азарт,*
*калі прамоўлена так многа*
*слоў, што згарэлі на кастры*
*ці патанулі ў водах Стыкса?..*
*Магчыма толькі паўтарыць*
*з таго, што свет паспеў забыцца.*

## * Новае віно *

. . .

Не ўдаецца жывое адчуць
у палоне прыземленых дум.
Чую шэпт: “Я цябе навучу…”
Гэта сум. Гэта сум. Гэта сум.

Сэрцу стане нібыта лягчэй,
і нябачны празрысты паток,
нібы дождж, па шчацэ пацячэ…
Гэта сок. Гэта сок. Гэта сок.

Нібы хто развядзе берагі,
паяднаныя памяці дном.
На вадзе затанцуюць кругі…
Гэта сом. Гэта сом. Гэта сом.

Адпусціўшы былое ў раку,
працягну да нябёсаў далонь –
сонца скоціцца мне на руку…
Гэта сон. Гэта сон. Гэта сон.

* * *

Вядомы ў каралеўстве дацкім
прысню сумнеў.
Гуляцца ў словы, нібы ў цацкі, –
не для мяне.
Душа даўно пару забавы
перарасла,
а плыць бліжэй да таннай славы –
шкада вясла.

А хвалі плешчуцца аб крыгі –
вякоў грахі –
і падмываюць сон Нямігі,
дзён берагі,
дзе, як на могілках забытых,
народ жыве.
Развеяў німбы час нібыта
і знік, як звер.

Але нябёсы помняць радасць
і боль жывых.
І адчуваеш сэрцам: варта
глядзецца ў іх.
Хай словы не шукаюць славы,
яны ў цане.
Гуляцца імі ў час крывавы –
не для мяне.

* * *

Ліць у мяхі старыя новае віно.
Хоць Ён жа гаварыў, што так рабіць не трэба.
Не вінныя мяхі, што час імкне на дно,
што ёсць віна кругі – невінавата глеба.

Мяхі, што прагнуць зноў, не сцёрліся да дзір,
а новае віно старыя раны лечыць.
Глядзіць на белы свет Нябесны Правадыр
вачыма зор і вер, чакаючы сустрэчы

з усімі, хто прыйшоў у гэты светлы сум
мо з Каралеўства Сноў, што існуе наяве.
У сораме сады чакаюць Боскі Суд,
але віно затым, што еднасці спрыяе.

Пакуль мяхі прымаюць радасна яго,
сярод трывог і мар магчыма быць пачутым.
Хай свет у днях зямных састарыцца, як гольд,
віно ў мяхах старых не зробіцца атрутай.

## Муза

*Людміле Рублеўскай*

Найлюбасных у Музы не бывае –
такога, каб адзін і на вякі.
Яна невыпадкова выбірае
і раздае абраннікам цвікі.

Натхненнем акрыляе. Ці надоўга –
залежыць ад празрыстасці душы.
Пакіне – і не вымучыш нічога,
хоць воўкам вый – пішы ці не пішы.

Яе каханне з выгляду як драма,
а палкасцю падобнае кастру.
Кахала і Максіма, і Адама,
і Ганну больш любіла, чым сястру.

Крывёй прымала ўдзячнасць без развагі –
магчыма, гэта жорсткі кошт. Аднак
найлюбасных у Музы не бывае,
і толькі Муза ў кожнага адна.

* * *

Адкуль бяруцца словы – з думак ці
з расы, празрыстых позіркаў і промняў?
Садзіцца слова птушкай ці ляціць
стралою з недасяжных нам узроўняў?

Адкуль бяруцца словы – з немаы
ці з мітусні і ранішняга тлуму,
ці з рэха, што арэхам на сады
скацілася?..
Ці гэта Бог падумаў?

Адкуль бяруцца словы – з глыбіні
ці з тых краёў, што блізкія да раю?
Альбо іх нараджаюць камяні,
што з нашых сэрцаў іскры выкрасаюць?..

Для іх будуюць людзі гарады,
высокія бажніцы і грабніцы.
А з іхняй шматмільённае арды
маланкі б’юць, каб нам не заблудзіцца.

## Vita nova

У пошуках меры, у выбары правым ці левым,
у спробах рымэйку спакусаў прамацеры Евы,
у першым наіўным сумневе і вінным сугрэве
прарастала праз дол.

У перакліканні асоб і сяброў пераліку,
у здачы шклатары, чарговых іспытаў-залікаў,
у шчодрых славесных авансах, грашовых пазыках
набірала разгон.

У сполахах жарсці і кожным злавесным спалоху,
у жаданні чагосьці зашмат і ўсяго патроху,
у вяртанні таго, што было пры цары Гароху,
мізарнее ад крыўд.

У чаканні свайго шэдэўральнага твора і лепшых
навінаў,
у схіленні да велічных ног, шэсці па ненахіленых
спінах,
будаванні бясконцым уласнага дома ці мо дамавіны
ператворыцца ў дым.

* * *

Падгарнуў я ў агонь
рэшткі спаленых дроў –
ён вярнуў сабе трон
паміж чорных шатроў,
сярод цемрадзі быццам
сам Зніч запалаў
і вандроўніку збіцца
са шляху не даў,
песню дня за хвіліну
паспеўшы дапець.
І над ім нахілілася
ноч, нібы смерць.
А святло ад яго
панялося да зор.
На хвіліну ўсяго
мой успыхнуў касцёр.

## Сэрца

Куды спяшаеш, сэрца,
удзень і нават ноччу –
бяжыш, нібы сагрэцца
у люты холад хочаш,

бы за табой нясецца
галодных думак зграя?
Я за табою, сэрца,
ужо не паспяваю.

А ты імчыш, як вецер,
праз міны і праз ямы,
нібы па мосце смерці
спяшаешся да мамы.

* * *

А сёння вершы не са мной –
яны імкнуць далей ад тлуму,
ім цесна ў радасці маёй,
яны прывыклі больш да суму.

У мітуслівы неспакой
у якасці натхнення рэшты
я сёння ўзяць магу з сабой
адно народжаныя вершы.

А тыя, што хвалююць сон,
што светлай таямніцай надзяць,
лякуюць іншых сэрцаў стогн.
А радасць лёгка можа здрадзіць.

## Шукаю

*Аксане Спрынчан*

Шукаю радасці ў журбе,
шукаю вартасці ў Айчыне,
шукаю смеласці ў сабе,
шукаю светласці ў жанчыне.

Шукаю праўды, як вар'ят
у бочцы з дзёгцем – лыжку мёду.
Нібы ў граху – цнатлівасць, я
шукаю сонца ў люстры лёду.

Чытаю зорныя сляды –
шукаю тлумачэнняў болю.
Гады гудуць, як правады,
а я шукаю ветру ў полі.

Шукаю рэха – у гарах,
шукаю бляску іскры ў кожным,
шукаю вечнасці ў вачах…
І надараецца – знаходжу.

# * Акропаль *

## Самота

Самота не спаткаецца з самотай,
хоць кожная самота мосціць лёс
праз топкае бяскрайняе балота,
з якога толькі ў неба выйсце ёсць –

тады, калі канчаецца зямное.
Самота ж прыціскае да зямлі.
Самотай паяднаны нават двое,
якія ў стан кахання перайшлі.

Самота тут – каменьчыкам адліку:
з адным крылом за птушкай не ўзляціш.
Знайсці сваёй самоты палавінку
цяжэй, чым Кветку-Папараць знайсці.

Так лёгка з ёю размінуцца ў часе
і не патрапіць у зямныя сны
ці ад самотнай роспачы прапасці
у чорных вокнах крыўды і маны.

Але шукае кожная істота,
імкнецца ўспомніць першародны гай –
калі з уласнай стрэнецца самотай,
адразу на Зямлі пачнецца рай.

## Святло поўні

*Л. К.*

Над зямлёю княжыць поўня,
зоркі-воі, нібы світа,
перамогай сэрцы поўняць –
легіёны хмар разбіты.

І святло на дол ліецца,
як прытоеная радасць,
у якой і болю цесна,
і лягчэй з нябёсаў падаць.

Толькі мы пра іх не помнім,
распрануўшы летуценні,
і святло высокай поўні
агарнула нашы целы.

Жарсцю стомленыя рукі –
хвалі ціхія пяшчоты,
як адхланне пасля штурму
залатога замка цноты.

У святле чароўным поўні
мы спачылі ад уцёкаў,
мы забылі гул пагоні,
што імчыць за намі цмокам.

Мы ляжым, нібы ў калысцы,
на апошняй мо пасцелі.
Нашы крыжыкі спляліся
між сабой, як нашы целы…

* * *

У неба звар'яцела пагляджу
з зямлі, што патанае ў нашай жарсці
і просіць хоць хвіліначку дажджу,
нібы перадсмяротнага прычасця.

І неба адгукнулася якраз,
калі запанавала ўжо сумненне.
І дождж лінуў нарэшце, як з вядра,
і здолеў астудзіць зямлі трызненне.

Нібыта ён правёў сабой мяжу
паміж прыродным і душэўным станам…
Прырода дачакалася дажджу,
але ці дачакацца нам адхлання?..

* * *

Прысніўшы сон, прачнуцца на світанні,
адчуўшы, што свабодны.
Лічыць сябе абраным у каханні –
няшчыра, нават шкодна.

І нечаканым познім разуменнем
свой досвед дзён дапоўніць:
у гэтым сумным свеце нават месяц
бывае рэдка поўняй.

* * *

Мы з табой чужыя з раніцы.
Я маўчу.
Падзяліцца нават радасцю
не хачу.

Ды і ў радасці гарошына
крыўды ёсць.
Я ў тваім жыцці няпрошаны,
нібы госць.

Я ў сваім стагоддзі згублены,
нібы грош
у тэатры, што без публікі.
Ну і што ж!..

Хай жа горшага не здарыцца
ў немаце.
Бо чужая радасць зайздрасцю
прарасце.

## Кроплі дажджу

Дождж ад раніцы ідзе
досыць цёплы.
Скачуць кроплі па вадзе,
танчаць кроплі.

З паўгадзіны мо стаю
ля тапалі,
назіраю, як зямлю
лашчаць кроплі.

Не прымружыць вочы, бо
сню Акропаль,
што знаёміў нас з табой
гукам кропель...

Заблудзіўся наш раман
ў жытнім полі.
Больш Акропаля няма –
толькі кроплі.

Дождж канчаецца, але
так паволі.
На асфальце, як на шкле,
танчаць кроплі.

* * *

Лягчэй судзіць чужыя лёсы, чым
апекавацца ўласнай доляй.
Я развучыўся цалаваць жанчын,
нібыта і не ўмеў ніколі.

Я развучыўся мілаваць жанчын,
душой пяшчотна лашчыць цела.
Там, дзе вясна квітнела, – сумны дым,
за летам восень не паспела.

О, як было цячы жывой вадзе
з крыніцы нашага натхнення!..
Цяпер мы хмары ў грома ў барадзе –
непажаданае збліжэнне.

Чаму ўсё так, каханая, скажы?..
Жыццё кароткае, як скерца, –
не паспяваеш навучыцца жыць.
Заўжды дзе тонка, там і рвецца.

* * *

Разумее душа паступова,
што згубіла вясновы разгон.
Мо не тое ласкавае слова
завітала ў дом сэрца майго?

Нехта лёс мой нібыта сурочыў,
што кагосьці мне ў ім не стае.
Мо не тыя гарэзныя вочы
днём глядзеліся ў вочы мае?

Са шляхоў, дзе вясна застанецца,
ветрам звеяла рэха, як дым.
Мо не тое гарачае сэрца
побач білася з сэрцам маім?

Мо не тое – але залатое
адшукаць паспрыяла руно.
А крыўдлівае ўсё і пустое,
нібы смецце, асядзе на дно.

* * *

Знаёмыя твары, як мары,
не хочуць, не могуць старэць.
Развеюцца шэрыя хмары –
і сонца пачне зіхацець.

І промні асветляць усмешкі
на вуснах такіх маладых,
і мы са стагоддзяў узмежку
глядзім на сяброў праз гады.

І сэрца, ламаючы краты,
за ветрам памкне наўздагон,
і хвалі мінулых сімпатый
падхопяць, як трэску, яго.

## У залаты альбом

*Ірыне Андрончык*

А ты выглядаеш княгіняй,
нібыта Венера між зорак,
з ласкавай усмешкай багіні.
Ну, хто табе дасць твае сорак?

Не часта камусьці пад небам
быць суджана Львом альбо Львіцай,
як золату ззяць сярод срэбра.
Ну, хто табе дасць твае трыццаць?

Наш зрок да памылак так схільны,
а сэрцу не час памыляцца.
Бо ты ж маладая жанчына –
няўжо хто не дасць табе дваццаць?

Хай кажуць, што ўзрост не ўтрымаеш,
разгадка мне бачыцца простай:
усё ты душою ўспрымаеш.
А душы не маюць узросту.

## Паненка Так

*Альжбэце*

З Вяснянкі свеціць дом-ліхтар.
У ім жыве паненка Так,
што выглядае як анёл, –
належыць сэрца ёй маё.

Паненка часам мовіць “не”,
не заўважаючы мяне,
і ўсё-ткі “так” гучыць лягчэй –
і ў сэрцы кроў хутчэй цячэ.

Паненчын срэбны галасок
гатовы я пачуць здалёк.
Нібыта мне ад Бога знак –
адлюстраванне ў звонкім “так”.

Яна чуллівая да слёз.
Шкада, што не дазволіць лёс
яе мне вочкі цалаваць
і словам вушка казытаць.

Бо на паўсотым віражы
і сам дзіўлюся, як дажыў
да пасівелай барады.
Паненцы ж толькі… два гады.

* * *

Маладая, зусім маладая,
для яе – незваротна стары.
Толькі сэрца ніяк не жадае
патушыць захаплення парыў.

І, паглядам яе абагрэты,
зноў знікаю ў маланкавым дні.
І здзіўляюся – як жа дагэтуль
пра яе я не ведаў ані?

І шкадую, што многае страціў,
патануўшы ў салодкай мане…
А яна не падобна да маці –
кожнай рысай люструе мяне.

* * *

Вясновая струна,
аблашчаная залай,
бы ў келіху віна,
у сэрцы загучала.

І голас, ёй услед,
памкнуўшы слоў падковы,
рассыпаў весялей
алюр французскай мовы.

І трэснуў лёд журбы
ў душы, што за імгненне
успомніла нібы
былое ўвасабленне,

калі, забыўшы страх
ад вечара да ранку,
глядзеў, нібыта ў рай,
я ў вочы парыжанкі…

І вось – о цуд, дальбог! –
як развітання водгук
на мосце Мірабо,
убачыць тыя ж вочы –

з недасягальных мар,
што прарасталі снамі.
У іх шумеў Манмартр
і зіхацеў агнямі…

І быў гатовы зноў
я тым вачам адкрыцца,
ды толькі ў скронях кроў
сцвярджала: “Ты – не рыцар!..”

* * *

Пагляды размаўлялі пяць хвілін,
нібы гайдалі лёгкія арэлі,
на мове, зразумелай толькі ім.
Калі і пазнаёміцца паспелі?

Вялі гаворку, бы ў краіне кроз,
крыху наіўна і амаль узнёсла.
Не замінаў ім розны наш узрост,
нібыта не было зусім узросту.

Яе пагляд імкнуўся да майго,
нібы не абяцаючы расстанне:
нямыя словы – лёгкія, як здані –
ляцелі, нібы мятлікі ў агонь…

## Карціна юнацтва

Гарэзлівая, быццам кацяня,
нібы з клубком, гуляецца са светам.
Свае пачуцці шчырыя яна,
нібыта птушак, выпускае з клетак.

Зіма ці восень для яе – вясна,
асветленая сонейкам ружовым,
мкнуць ручайком, які не знае дна,
усмешкамі аздобленыя словы.

Яна з сябрамі ў свой маленькі рай
не замінае вокнам расчыняцца…
За ёю так прыемна назіраць,
бы смакаваць глыткі з крыніцы шчасця.

. . .

Танцуюць белыя струмені
у скверы вулічным ля ГУМа.
У блізкіх позірках сустрэчных,
здаецца, ні хмурынкі суму.

У вечаровай каруселі,
дзе кожны некага чакае,
здаецца, ліхтары прыселі
на лавы разам з мінакамі.

Мяне вядзе далей нагода –
спатканне з мрояй маладосці –
да плошчы той, якой Свабода
сваё імя дала аднойчы.

Ля белай Ратушы сустрэцца –
нібы вярнуць былы Акропаль…
Нам з неба месяц усміхнецца
і – уваскрэслая “Еўропа”.

# * Крок убок *

## Памяць дажджу

Цягнік, заспеты дажджом,
патанае ў яго
пяшчотных абдымках.
Дождж, нібы неаглядная
празрыстая істота,
ціхім шэптам
спяшаецца распавесці
пра нешта важнае,
штосьці занатоўвае
неразборлівымі іерогліфамі
на аркушах акон.
Можа, пра тыя
пракаветныя часы,
калі на зямлі быў рай?..

Тады, як і цяпер,
дождж раз-пораз злучаў
неба з зямлёю,
як пяшчотны
ці палкі пацалунак…

Дождж памірае
і ўваскрасае,
але памяць яго вечная,
як свет.
Кожны з нас
падобны да яго,
бо падсвядома захоўвае
адчуванне зямнога раю –
кожнай клеткай цела,
што амаль цалкам
складаецца з вады, –
памяць дажджу.

* * *

Уначы
на мяне неадрыўна глядзяць
вулічныя ліхтары,
падоўгу затрымлівае
магнетычны пагляд
поўня.
Бо я не занавешваю вокнаў,
калі сплю.
Удзень,
блукаючы сярод людзей,
кожны раз нечакана
сустракаю незнаёмыя позіркі
нязменна прыгожых жаночых вачэй.
Але я не маю рашучасці
доўжыць пагляд у адказ.
Калісьці пры нараджэнні
Венера слабым промнем
пацалавала мяне ў лоб.
І той пацалунак
гарыць на ім незаўважным таўром
да гэтага часу,
як незаслужаны дарунак лёсу…
Святло ж заўсёды імкнецца
да святла.

## Магія смеху

Я амаль не заўважаў яе,
хоць мусіў працаваць побач.
Але аднойчы азірнуўся,
уражаны пачутымі гукамі.
Гэтай дзівоснай музыкай
быў яе смех.
З таго часу
найлепшай асалодай стала –
зноў пачуць,
як яна смяецца…
Смех быў пярлінай,
што хавалася ўнутры
яе цялеснай абалонкі.
О, не! Яна не смяялася!
Гэта яе дзіцячая душа
спявала на мове анёлаў.

* * *

Маю досвед двух жыццяў –
вытворчага і творчага.
У кожным з іх я іншы.
Заглыбляючыся ў адно,
амаль забываюся пра другое.
Але ў кожным
час ад часу імкнуся выпіць сябе,
каб зноў напоўніцца,
нібыта пішу тонкім пэндзлем шчырасці
дыпціх свайго дзіўнаватага лёсу.
У першым свеціць акно манітора,
у апошнім – сонца паэзіі.

* * *

Здаецца, што не сплю ўжо –
чую крокі
да ложка.
Мама будзіць пацалункам.
Збірацца ў школу.
Зноў дзяўчынка-восень,
нібыта ў час дзіцячае гульні,
дагнала лета-хлопчыка,
і той,
спыніўшыся, застыў…

Расплюшчыў вочы –
а мамы ўжо няма.
І толькі восень
глядзіць праз вокны сумна
на мяне.
І я даўно ўжо… не маленькі хлопчык.

• • •

Пустая хата
чакае мяне,
як бацька з матуляй
калісьці чакалі.

## Новы Герастрат

з усмешкай хіжай
ён запальнічку паднёс
да дзьмухаўца
боль непрацяглым быў
амаль
за міг няўлоўны знік сусвет

* * *

Калі адбываецца пахаванне рыфмы,
паэзія працягвае жыць
у алітарацыях і перагуках.
Калі знікаюць перагукі,
застаюцца промні вобразаў.
Калі пачынаюць знікаць вобразы,
паэзія трымаецца верай,
у ёй яшчэ б’ецца сэрца рытму.
Але калі знікае вера,
застаюцца камяні маўклівасці.

## * На крыжы дарог *

• • •

Над Валожынам воблакі белыя-белыя,
і між іх, аглядаючы свет,
зрэдку храмы і замкаў руіны ўтравелыя,
Страцім-Лебедзем сонца плыве.

Паглядае й сюды, дзе палацы люструюцца
праз умоўную рысу сцяны.
Залюстрэччам здаецца зямля беларуская,
у якім заблудзіліся мы.

## Беларускі крыж

Моўчкі сонца палымнее
На маўклівы крыж дарог.
*Леанід Дранько-Майсюк*

Беларусь ляжыць
на крыжы дарог,
на плячах штовек
войнаў і бяды.

Можа, мой народ
мае лёс такі –
несці крыж пакут
за ўвесь белы свет?

Пасярод Зямлі
Поўнач з Поўднем тут,
Захад і Усход
скрыжаваліся.

Слёзы, раны, смерць,
кпіны, здзек і боль…
І сцякае кроў
на дарожны пыл.

Ратаваць чужых,
паміраць цяпер,
каб у славе дзён
уваскрэснуць зноў!..

Беларусь, нібы
светлы цень Хрыста,
вісне на крыжы,
на крыжы дарог.

## Разбураны касцёл у Дубровах

*Віктару Шніпу*

Аскепкі часу – на прыступках лесвіц.
Тут доўга не бывае ні душы,
адно на сонцы грэюцца смаўжы,
нібы ў зачараваным каралеўстве.

Быў Боскі храм, цяпер – смаўжовы дом.
Па ракавіне велічнай, пустой
блукае вока з болем і дакорам –

як мора, ў ёй шуміць птушыны спеў…
Зімою – снег, з вясны – лістота дрэў
крыху прыкрыюць чалавечы сорам.

## Беларуска

Панікне месяц малады,
як вокам лёс яе акіне:
няўжо ёй суджана заўжды
жыць у прыдуманай краіне?

Яе натхненне жывіць сны,
хоць і пад сонцам не знікае.
Сумуе вершам і з вайны
свайго каханага чакае.

І для душы не навіна,
што хутка скончыцца павінна
двухсотгадовая вайна
за вольнасць любае Айчыны.

Бы з незагойнай раны – кроў,
лёс ручаінкаю сцякае…
Яна свая ў краіне слоў,
а ў Беларусі – як чужая.

* * *

Кароўка божая паўзе
па сцягу бел-чырвона-белым,
нібы яго сляза да неба
ці задуменны позірк Бога,
які праменьчыкам натхнення
мацуе сцены даўняй веры
“у нашу праўду”, прышласць лёсу.
І мы на сценах тых стаім.

Ажно прыціх халодны вецер,
а сонца выбліснуць паспела
і азарыла на хвіліну,
нібы цалуючы, наш сцяг.
І бачна мне і ўсім, хто побач:
нібы крыві жывая кропля,
па сцягу бел-чырвона-белым
кароўка божая паўзе.

## Палац Рэспублікі

Засціць маленькія вулачкі
масай вялізна-пачварнай –
вылез Палац Рэспублікі,
нібы скула на твары.

З боку Кастрычніцкай плошчы
спрытна кляшчом прысмактаўся,
пучыць шкляныя вочы,
моцна за глебу трымаецца.

Быццам зладзеі ў законе,
пыхай аброс, нібы мохам,
шчэрыць, як зубы, калоны,
пэўна, імкнецца спалохаць.

Пырскаць сліны фантанамі
месца яму замала:
з марай ніяк не расстанецца –
знішчыць старыя кварталы,

каб узвышацца над долам,
вочы мазолячы Менску…
Вось бы з’явіўся зноў Волат –
знёс яго ў іншае места.

* * *

На праспекце Скарыны,
якога, здаецца, няма,
не сціхае жыццё:
мкнуць насустрач машыны і людзі.
Гэтай плыні жывой, дзіва што,
“не спыніць, не стрымаць” –
ні агнём герастратавым,
ні акіянам ілюзій.

На праспекце Скарыны
амаль што мінуў лістабой.
Дагарыць вечаровае сонца,
скаціўшыся нізка.
На рагу каля ГУМа
спаткаемся сёння з табой
і магчыма, што зойдзем
на каву ў кафэ “У Францыска”.

Над праспектам Скарыны,
якога нібыта няма,
парассыпана зорак,
ды толькі не ўбачыць ніводнай,
бо рака залатога святла
асляпляе амаль,
льецца ў сэрца вясёлкай
начных каляровых мелодый.

Чуем словы, што ў Менску
на заўтра сумнеўны прагноз.

Гэта мала істотна,
бо ўжо не адолее сон нас.
Па праспекце Скарыны –
хай нават ударыць мароз –
пойдзем мы
сустракаць раніцой
уваскрэслае сонца.

* * *

Белыя змеі
паўзуць па скаванай марозам зямлі,
служкі зімнай завеі.
Белыя змеі
шыпеннем сягаюць да голых галін,
снежных дахаў і весніц.
Белыя змеі
замерзлае ссуць малако
з вымя рэк і азёраў.
Белыя змеі
імкнуць паасобку, то цэлым клубком
у халодныя норы.
Белыя змеі
над кожнаю згубленай летам душой
непадзельна ўладараць.
Белыя змеі
шукаюць за позняй начною мяжой
цёплай ахвяры.

* * *

Колькі важыць хвіліна салёнай самоты,
колькі смеласці кропель у келіху страху,
не прызнаецца голас параненай цноты,
пазбягаючы новай балючае страты.

Колькі лёсам адмерана неба і болю –
дапамогуць хіба што валхвы здагадацца.
Разнастайныя – чымсьці падобныя ролі,
размаітае – мэтай з'яднана мастацтва.

Каб каханню не ўпасці ў нянавісці пашчу.
Каб, гукаючы рэха, не збіцца на лямант.
Хай не ўсе абмінуць нам нябачныя пасткі,
не патрапіць бы ў багну ці воўчыя ямы.

Свет падасца нядобрым і здрадлівым мужам –
твой наіў захлынаецца ў моры адчаю…
Але раптам распусціцца радасці ружа
ці прыкоціцца сонечным вожыкам шчасце.

* * *

А хлопчык здзіўлена глядзіць,
бы напачатку землятрусу,
нібы я жабу нарадзіў,
калі спытаў па-беларуску.

А хлопчык здзіўлена глядзіць,
нібыта ўбачыў цуд у слове,
нібыта з неба маладзік,
мне адказаў на роднай мове.

* * *

*Святлане Длатоўскай*

Любяць сваю пару
сонца і дождж, і вецер.
І слова – з яго Беларусь
зачацца здольная ў сэрцы.

Апошні штуршок ці рух
для лёсу як міг дatклівы –
і з сэрца твайго Беларусь
свае развінае крылы.

Хістаюцца хай гады
ад жорсткасці да мілосці,
але Беларусь заўжды
сінонімам ёсць прыгажосці.

Яе абароніць ваяр,
жыццё паклаўшы на тое.
Мастак скарыстае свой дар –
прыбраць Беларусь у строі.

Драпежна-ласкавы звер
засне ў ёй без рыку і енку…
Божа, пашлі мне верш
пярлінаю ёй на сукенку!

## Валун

Мацней за дзіды прамянёў,
хоць і слабей за боль.
Не чалавек і не анёл –
ён камянёў кароль.

Тысячагоддзі перажыў
у поўнай немаце,
і не змяняецца ў душы,
хоць звонку і расце.

## Цягнік і хмара

Бліснуўшы чарговым шнарам
цягніку, што ўнізе ўзнік:
“Замачу!” – сказала хмара.
“Уцяку!” – сказаў цягнік.

Хмара, пэўна, зазлавала –
пачарнела, як смала,
і маланкамі шугала,
хоць пацэліць не змагла.

Кажа: “Я пашкадавала…”
Ёй цягнік: “А я сухі!” –
каля менскага вакзала,
дзе сышліся іх шляхі.

## У кавярні “Жар-птушка”

Калі сонца пад поўняй
сумна промні патушыць,
мо сустрэнемся сёння
у кавярні “Жар-птушка”,

што ля ціхай запруды?
Тут, бы ў светлым палацы,
сёння музыка будзе
і шляхетныя танцы.

Зноў музыка вядомы
са сваёю сябрынай
для гасцей і знаёмых
ладзіць тут вечарыну.

Шмат чароўных паненак
і хлапцоў зухаватых.
Так натанчышся, пэўна, –
не захочаш дахаты.

І запомніш з пяшчотай
дух Айчыны спакусны,
і ружовыя шчокі,
і салодкія вусны,

і што сэрцу не душна –
вольна дыхаюць грудзі…
Ты прыходзь у “Жар-птушку” –
сёння весела будзе.

* * *

За сто крокаў ад “Еўропы”
без фальшывага гламуру
ладзіць баль у дзён шматкроп’і
новая літаратура.

За сто крокаў ад “Еўропы”
лёс крыніцаю бруіцца –
тут збіраюцца асобы,
што “падобныя сталіцам”.

І прыгожыя паненкі
усміхнуцца ім удзячна.
У высокія імгненні
праз акно “Еўропу” бачна.

Хай такое не заўважаць
беларускія навіны,
так рыхтуе доля наша
гонар будучай краіны.

Можа, хтось з нашчадкаў мовіць,
кінуўшы пагляд праз шыбу:
“Тут смяяўся Хадановіч,
файна дзеіў вершы Жыбуль…”

Сэрцы ўдалеч мкнуць галопам,
пляск далоняў нарастае
за сто крокаў ад Еўропы…
Хоць Еўропа ўжо не тая.

* * *

*Алесю Кваткоўскаму*

Пануе золата над светам,
сцякае з неба ўніз.
Дзесь паміж восенню і летам,
здаецца, свет завіс.

Лунае залатое рэха,
бурліць, бы ў сэрцы кроў –
планету, як галіну дрэва,
абвіў пчаліны рой.

Дзень для вачэй дае прытулак
і залацістых кос.
І адгукаюцца мінулым
пан Лес, пан Лён, пан Лёс…

Свет сёння зноўку заначуе
у залатым вуллі…
І толькі ўважлівы адчуе
смак нашае зямлі.

* * *

У дзень народзінаў Максіма
здымае сонца капялюш –
з-за хмар, нібы з палонкі сіняй,
імкнецца глянуць на зямлю.

Але ці знойдзецца той вецер,
які б сутонне з неба знёс?..
І дзень перацякае ў вечар –
кароткі, як Максімаў лёс.

Зямля, што нарадзіла сына,
святлом па Свіслачы плыве.
Святая максіма Максіма
у сэрцах водбліскам жыве.

З ёй нам не цёмна і не зімна,
хай нават снег на сэрца лёг…
У час народзінаў Максіма
заўсёды радуецца Бог.

# * Чорна-белыя сны *

• • •

А неба, разгарнуўшыся ўначы,
запаліць для малітвы свечкі зорак.
І ноч нібыта нешта закрычыць,
спрабуючы вярнуць у сэрцы сорам.

А сэрцы чалавечыя – у сне –
ні крыкаў тых не чуюць, ні малітвы…
Нарэшце ноч з адчаю паласне
па цёмным небакраі вострай брытвай.

• • •

…каляровая рыфма
гучыць непрыстойна.
*Андрэй Хадановіч*

Каляровыя думкі
цураюцца вершаў?
Ці губляюць у іх
каляровасць пачуцці?
Калі сонца свой цуд
каляровы завершыць
і аб дол разаб'ецца,
бы кропелька ртуці,

чорна-белыя сны
да мяне завітаюць.
Вельмі рэдка між іх
прамільгне каляровы –
і адразу ж знікае,
ледзь трапіўшы ў памяць,
не паспеўшы сказаць
развітальныя словы.

Каляровае шчасце
народзіць удзячнасць,
што спазнаў я жаданае
ў мроіве сонным.
Калі б іншы хто здолеў
той сон мой пабачыць,
палічыў бы, напэўна, яго
непрыстойным.

## Пытанні да сябе

Дзякуй шчырай мане.
Бо яна ад мяне
Жорсткасць свету таіла…
*Рыгор Барадулін*

А ты ні разу не зманіў
або ішоў за ўсімі следам?
Усе апосталы Мані
табе падзякуюць за гэта.

Ці шанцаў вырвацца няма,
нібы са шчупальцаў рэкламы,
калі лагодная мана
тваёй прыкінулася мамай?

Хай абумоўлена яна
разлікам, жалем ці пагрозай –
вярнуць не здолееш, аднак,
слоў, кінутых на шалі лёсу.

Крывое слова – бумеранг,
што хутка вернецца ударам
і лік былых душэўных ран
дапоўніць новым дробным шнарам.

Не краў? Не крыўдзіў? Кроў не піў?
Жыцця не крэсліў, хоць карцела?..
А што ты пэўнага зрабіў,
каб у душы мана знямела?

## На балі

Я не ганю і не ўхваляю – я назіраю.
*Стэндаль*

На выкшталцоным балі існасці,
там, дзе лілася акавіта,
кактэйль высокага і нізкага
па звонкіх келіхах разліты.

Нязвыклым смакам, рэдкім водарам
ён вабіць розумы і сэрцы:
хай блісне лёс на сонцы возерам,
што не пад сілу выпіць смерці!

І госці, злёгку ап’янелыя,
у коле кружацца вясёлым.
Між іх пад маскай анямеласці
таемна танчыць нават Воланд.

Між іх пад маскамі нявіннасці
размовы свецкія вядуцца.
Тут можна зоркаю прыкінуцца
і моцным слоўцам замахнуцца.

Бо на прыступках да бясспрэчнасці,
недасягальнай для зямнога,
так хочацца прыгубіць вечнасці,
але не хочацца да Бога.

## У адказ спадарыні М.

Найлепшыя ў тваім вершы – радкі эпіграфа.
*Спадарыня М.*

Ты мовіш так, бо я не твой паэт,
мае радкі, на жаль, табе чужыя,
для маладой тваёй душы яны
някідкія – ні пачуццём, ні думкай.
У час прызнанняў рознакаляровых
і эпатажных заклікаў куміраў,
у час істэрык вобразных, бадай,
не проста лёс паміж радкоў убачыць.

А для мяне радкі і словы ў іх, –
бы кроў, што запяклася між бінтамі
сучасных думак неэкзальтаваных,
раскутых мар і вольных меркаванняў,
дзе смешнае сплялося з вычварэнствам,
дзе смерць плыве ракою праз свядомасць…
Свет нібы сніць стагоддзі ў страшным сне,
але пара, пара яму прачнуцца.

І хто я ў ім: сімфонія ці фон?
Дажджынка ці няспраўджаная знічка?
Прыступка паміж будучыняй блізкай
і тым мінулым, што гукае нас,
пра нешта імкнучыся папярэдзіць?..
Калі наіўны гук пусты – не слухай,
калі прыступка – паспрабуй ступіць,
калі сусвет у кроплі – зазірні,
а калі знічка – загадай жаданне…

## Паэт-камікадзэ

Вымагае эпоха глынуць мухамораў сухіх,
каб зайсціся ў шчаслівым экстазе.
І на змену ямбічна-харэйнаму культу
прыходзіць паэт-камікадзэ.

Ён гатовы ўзарваць гэты свет састарэлы,
чуллівы і рытмізаваны,
і ідуць праз пустэльні стагоддзяў былых
дзёрзкіх вершаў яго караваны.

Бы павук – павуту, ён звівае са слоў маладых
чорна-белае дзіва.
Нібы з Нілу, з яго выплывае драпежна
зялёная здань кракадзіла

да Венеры з аголеным станам,
што лашчыцца ў хвалях атласных.
Зараз шчоўкне зубамі – і кроў афарбуе сусвет
у вачах ашалелых і жарсных.

Рым стары задрыжыць, заімгляцца шляхі,
што вядуць да яго, і дарогі.
Засмяецца злавесна з глыбіняў прадоння
спадар казланогі –

перамозе чарговай сваёй
і часова прыніжанай праўдзе,
калі крыкне ўласнаму лёсу: “Банзай!”,
нібы зомбі, паэт-камікадзэ.

* * *

І ў трыялет убачыць можна свет,
хаця паэт смяецца з трыялета.
Калі ад Бога зрок, і без ларнета
у трыялет убачыць можна свет.

Смех можа стаць, як чорны пісталет –
спрыяць ператварэнню свету ў гета.
І ў трыялет убачыць можна свет,
хаця паэт смяецца з трыялета.

## Рэверсі

праўда – тое, чым лупяць па твары, нібыта анучай.
праўда – рэклямны тавар, які надакучвае.
*Віталь Рыжкоў*

Меч, скіраваны ў сэрца, важна паспець адбіць
хоць адзіны раз, ці хаця б памкнуцца гэта зрабіць,
але сэрцам шануючы кодэкс гонару, як Статут.
А інакш – ну навошта мы сёння знаходзімся тут?

Шмат каму падаецца, што праўда й мана – з аднаго сасуда,
як Хрыстос і Юда (адсюль і Евангелле тое ад Юды).
А лягчэй патлумачыць свой лёс, зазіраючы пад спадніцу,
каб не ўпасці ў вачах, як даўнейшы юдэй, калі камень
шпурляў у блудніцу.

Ну, а што, калі свет геніяльна прасцей, чым галоўцы
“прасунутай” можа падацца, –
раз мана карыстаецца праўдай, якой немажліва маной
скарыстацца?
Для нябёсаў у гэтым пытанні непрымальныя іншыя версіі,
а інакш пачынаецца тая ж зямная гульня ў рэверсі,

якую прыдумалі значна пазней шатранджа, але й не мы.
Для гэтага досыць Мані пастараўся ў свой час, бо не быў
нямы.
Праўда ў твар – не тавар – ратаванне, сатканае
з болю і мук.
І яе не адмыць ад смуроду лайна, калі выслізне з рук.

У зямным марафоне маны і праўды, якія адбіткамі ў кожным,
яшчэ не фініш, дасць Бог – пабачым,
Хто смяецца апошнім…

## Эпоха чорных акуляраў

…І вось пайшлі атрутныя дажджы
і атруцілі ўсю ваду на зямлі. І кожны,
хто піў такую ваду, паступова вар'яцеў…
*Старадаўняя арыйская казка*

1

Сталі сонца баяцца вочы,
думкі бліскаюць з цемры па-воўчы,
і інстынкты прыроды звярынай
прабіваюць душы шкарлупіну.

Учарашнія вершы – малітвамі?
А цяпер будуць яблыкі з брытвамі:
іх крыўляюцца словы, як блазны,
нараджаючы ў сэрцах аргазмы.

Скокі смерці п'яняць і туманяць.
Дай нырца ў падсвядомасць, бы ў памяць!
Уцячы ад зямной параноі,
дзе абвешчаны конкурс на Ноя!..

Хай развеецца ісціна ветрам,
адбаліць ненапісаным вершам,
хай сканае паэзія ў стрэсах,
каб, як Фенікс, ізноў уваскрэснуць…

2

П’яны карабель
прыбіла да нашых берагоў.
У вачах і душах блукае
прывід чорнага сонца.
Вера звергнута?
Асоба адасобілася?
Істота – не істотная?..
Бог не пакіне.

3

Ноч.
Саната
пасіянарнага
дажджу.

* * *

У матэрыялізаваным свеце
свае законы, свае адзнакі.
А памяць пра іншы засцелена ценем,
пустым адчуваннем пад знакам Ніякім.

А гэты свет – меней наіўны, чым хіжы –
абмежаваны прамежкавым часам.
І кожны жыве ў ім, нібы сярод іншых,
і разам з тым – нібы з сабою сам-насам.

Жыццё ў ім падобна на аркуш паперы,
які невядома з чаго спрасаваны,
і пахне атрамант пісьмёнаў смерцю,
а словы і думкі нібы згвалтаваны.

Тут цэняцца грошы вышэй за словы,
і цэняцца словы вышэй за думкі…
Хіба што ўладараць такія высновы,
пакуль не пазбавіцца сэрца ад тлуму,

пакуль ува сне не расплюшчацца вочы,
душу не запаліць жарынка сумлення
ці мэту з’яўлення зямнога – аднойчы
не высветліць з цемры маланка натхнення…

# * Шлях пад сонцам *

* * *

На старт! Мой спрыт
зямных чакае дзён:
што лепей – спрынт
ці, можа, марафон?..

І першы крык
узнёсся да нябёс.
Здаецца, спрынт
мне прапануе лёс.

Жабрак ці прынц –
пастаў душу на кон!
Ратуе спрынт
ад мар пра марафон.

Не выбірай
для сэрца іншы рытм!
Жыццё – не рай,
але й не лабірынт,

не цесны рынг
і не адвечны сон…
Ды ўжо – не спрынт,
яшчэ – не марафон…

* * *

Пра крону мараць карані,
і рады шар у неба ўзвіцца,
а я баюся вышыні
яшчэ з далёкага дзяцінства.

Імкнуць па лесвіцы надзей,
здаецца, могуць толькі цені –
цягну за імі, як на здзек,
цяжар свабоднага падзення.

А знізу дробны чорт шкрабе,
нібы спіхнуць спрабуе з даху.
І прыкра адчуваць сябе
ахвяраю на пласе страху,

бо кожны велічны парыў
ад гэтага губляе вартасць.
Я сню да сённяшняй пары,
як з вышыні балюча падаць.

Але быў літасцівым Бог
і для душы мне ў пэўнай меры
даў моцы, каб я толькі змог
узняцца на прыступку веры.

І ў той надхмарнай чысціні
я зразумеў, яшчэ нясмела,
што не баюся вышыні –
яе баіцца толькі цела.

* * *

Колькі можна расці?
Нават дрэвы спыняюцца ў росце,
бо высокае дрэва – заўжды
для маланак мішэнь.
Той, хто іх не баіцца,
нібыта танцуе на дроце…
Толькі нешта штурхае ў каршэнь:
уздымайся вышэй.

Колькі можна расці?
Кажуць, трэба нарэшце змірыцца
з тым, што, як і даўней,
не пракорміць атлантаў Зямля –
цесны свет і малы,
як планета для Зорнага Прынца…
Толькі прагне блакіту,
сягае ў бясконцасць пагляд.

Колькі можна расці?
Усё роўна не вымкнеш да неба
у кароткім, самотным,
халодным і шэрым жыцці…
Не спяшаецца з цела душа,
сэрца не выпінае за рэбры,
кроў аорту не рве.
Толькі духу ўдаецца расці.

## Прага

Прагоніць вецер хмары страху,
і сонца высветліць масты.
Я проста прагну бачыць Прагу,
сярэднявечны чуць матыў.

Я прагну Прагі, як адвагі,
як прагнуць славы мысляры.
Кім бы Скарына быў без Прагі?
Для Вільні эру б ці адкрыў?

І веліч, і вайну спазнала –
тут порах быў заўжды сухім.
Ды быць сабой не перастала,
хоць прамінулі сотні зім.

Яна ні грэку, ні варагу
не пакланяецца здаля.
Хай праўдзіць мары,
хай пад Прагай
не прагінаецца зямля.

* * *

Заблішчаць купалы на Купалу
ад высокіх паганскіх кастроў,
нібы з даўніх стагоддзяў паўсталых,
каб сагрэць нашу кволую кроў.

І ў глыбінях душы адгукнецца
патаемнае нешта, як звон.
Сэрцу некуды будзе падзецца,
сэрца мусіць скакаць праз агонь.

Вусны вуснаў кранцуцца нясмела,
сэрцы смеласці вуснам дадуць.
А пасля, распрануўшыся, целы
у купальскую ступяць ваду…

У сучаснай заблытанай драме
нібы краты над намі вісяць.
Толькі наша спрадвечная памяць
прагне Папараць-Кветку шукаць.

## Чытае Сяргей Вераціла

Цесна словам у строме бурлівай маўлення –
напіраюць адно на другое, штурхаюць,
задыхаюцца болем ці прагай натхнення,
паміраюць, хрыпяць, моўкнуць, уваскрасаюць,

спакушаюць, здзіўляюць драбніцаю кожнай.
Гулкі голас здаецца параненым зверам,
што бароніць жыццё, рвецца з сілаў апошніх,
каб прабіць абалонкі скарэлыя сэрцаў.

Словы, нібы вуголлі – душой не ўтрымаеш:
апякаюць, ды ім немагчыма не верыць.
Заварожаны іх заклінаннем шаманскім,
станаўлюся адным я агаленым нервам.

* * *

*Памяці Андрэя Вазнясенскага*

Калі памірае паэт,
становіцца свет бяднейшым.
Хай лічыць прыхільнік манет,
нібыта не золата вершы.

Яму не пачне балець,
што свет без паэтаў псее.
Калі памірае паэт,
Зямля, як дзіця, сірацее.

Зямля апранаецца ў ноч,
дзе светляцца зорныя словы…
Пакуль у краіне адной
паэт не народзіцца новы.

## Скарпіён

вакол суму майго
запляліся галіны ў вянок
*Анатоль Сыс*

Кастрычніка кастрамі не сагрэеш,
і застаецца думаць пра экстрым.
А неба так марозна ружавее
і пасыпае шэранню двары.

Такой парой прыспела нарадзіцца,
калі лістоту скінулі лясы
на Пакацігарошкавай радзіме,
і бедны край ад холаду азыз.

Цяпер для ўсіх нібыта аксіёма,
што лёс яго маланка апякла,
загартаваўшы джала Скарпіёна,
што прабівала сэрцы, як страла.

Быў час нядоўгі – дні яго мінулі –
гучалі з вуснаў словы ад багоў.
А ў горычы пустой з імпэтам кулі
хандра змяёй уджаліла яго.

Такім, як ён, лягчэй у цемру скону
сысці, чым жыць у звыклай тут журбе.
Кароткі часам век у Скарпіёна,
што ў роспачы палюе на сябе.

## Жоўты колер стомы

Жизнь надсмеялась надо мной.
*Алесь Асташонак*

Я не стаміўся ад сваёй зямлі,
хоць вымушаны быў яе пакінуць,
каб на чужыне дажываць і гінуць,
дарэмна пра вяртанне лёс маліць.

Ад шчасця сэрцу больш не палымнець,
стаміўся я ад горкага кахання,
ад кожнага сумнеўнага прызнання.
І не заменіць вера памяць мне.

Стаміўся і ад блізкае маны,
і ад далёкіх горных бліскавіцаў,
як ад пагроз павінен быў стаміцца –
спыніцца ля кітайскае сцяны.

Радзей пад сонцам падаю ў траву,
нібы прашу зямлю вярнуць мне сілы.
Магчыма, што да самае магілы
стаміўся я. Але пакуль жыву.

## Чалавек-крыніца

*Памяці Віталя Скалабана*

Хай нехта не захоча тое слухаць,
але ці можа сэрца памыліцца,
што ў чалавека, велічнага духам,
ёсць на зямлі не дрэва, а крыніца.

Крыніцы паміраюць, як і людзі,
з вякоў, даўнейшых ад часоў Элады.
Іх моўкнуць галасы, цішэюць грудзі –
бы нітачкі знікаюць Арыядны,

што нас лучылі з роднаю зямлёю,
нібыта карані, душу жывілі,
ад смагі ратавалі неўцямлёнай,
каб людзі ў тлумным свеце не забылі

мар пра глыток крыштальны, як аб цудзе:
адрозніваць сваё ад чужаніцы.
І Беларусь заўжды жывою будзе,
пакуль яе не высахнуць крыніцы.

Без велічнасці ж воля не прысніцца –
брысці натоўпам зноў да вадапою…
Калі сыходзіць чалавек-крыніца,
яго не ажывіць жывой вадою.

## Геніяльнасць

Быць геніяльным відавочна
і ў вузкім спектры мець праявы.
Здаецца, Фішар сумна скончыў,
бо быў для іншых нецікавы.

Хто мае моц, імкне наперад,
але ці пераможа хвалі –
кагосьці выкіне на бераг,
кагосьці разаб’е аб скалы,

бо не прызнаў таго парадку,
што не змяняецца з гадамі.
І геніяльнасці загадку
жыццё ніяк не разгадае.

Яна мне бачыцца хімерай,
што здольная зрабіцца праўдай –
старым мастом на правы бераг
над маладой ракой пагарды.

Ці мае геніяльнасць вектар?
І да чаго ён скіраваны:
да промняў неба? змроку нетраў?
да варварства ці да нірваны?

Сваю выконваючы ролю,
калоссю служыць ці калосам?
Ці паглыбляе мора болю,
ці асушае сонцам слёзы?

Заслугай ёсць ці падарункам?
Узнагародай? Пакараннем?
Ці проста – Боскім пацалункам?..
Пытанні. Вечныя пытанні…

* * *

*Вадзіму Клімовічу*

Маю гонар, бо маю свае карані,
маю глебу, з якой прараслі яны ў сэрца,
маю кола сяброў і далёкай радні
на балотнай зямлі, што радзімай завецца.

Маю мову – на ёй гаварыў мой народ,
хоць з нядаўняй пары і не надта гаворыць.
Гэта мова, як кроў у аортах дарог,
пазайздросціць яе мілагучнасці вораг.

Маю веру, што лёс прасвятляе да дна, –
у адзінага існага светлага Бога.
Маю мару пра тое, што можа з'яднаць
гэты край пад сузор'ем-крылом Казярога.

Маю досвед кахання, і памяць яго
над зямлёй узвышае да гэтага часу…
А пра гора, пра страты, пра згаслы агонь
і пра боль не чакаю ад Бога адказу.

Хто мы ў гэтым віры? Ваяры-змагары
з легіёнамі зла, што наш свет не скарылі.
Воі ў Боскай дружыне – ідзём на прарыў
з пракаветных часоў Аркаіма і Крыўі.

І калі я ўжо меч не ўтрымаю ў руках,
у апошні свой міг зноў душой узгадаю
гэта шчасце: мець веру, мець мову, мець шлях,
калі нават нічога я болей не маю.

# * Шалі душы *

\. . .

На шалі душы маёй
вечнае ляжа,
як вобраз і думка –
што з іх пераважыць?

Як водбліск і рэха,
як голад і смага…
А сэрцу, як цэнтру,
мілей раўнавага.

* * *

*Наталлі Кучмель*

Калі б душа мая магла
быць працавітай, як пчала,
дарэмна час не марнавала,
у пошуку жыла.

Нястомна, як палёт стралы,
лёс чуйнай доўжыцца пчалы –
ёй для зямнога шчыравання,
здаецца, свет малы.

Хто атрымаў высокі дар –
збіраць душою слоў нектар –
павек у радасці і ў горы
сабе не гаспадар.

Бо дзень ягоны корміць год.
І блаславёны ім народ:
ад старасці ў жыццёвым моры
сабраны лечыць мёд.

## Агонь і дым

Як агню ўспамінаецца дым.
*Уладзімір Някляеў*

Бывае – як сонца павысушыць росы –
добрыя дровы гараць без дыму.
Звычайна ж ён схопіць агонь за косы,
нібы гвалтаўнік – маладую дзяўчыну.

Агонь вырываецца з лапаў смярдзючых,
на дапамогу вятры гукае –
ад свежага подыху робіцца дужым,
і дым баязліва за лес уцякае.

А полымя поўніцца сонечнай сілай,
скача ў нябёсы чырвоным лісам –
нарэшце знікае ў бязмежнасці сіняй,
слядоў развітальных пакінуўшы прысак.

## Час Хамелеона

Наіўны свет, дзе ўсё наадварот,
пакуль не прызнае сябе наіўным,
бо на працягу мо мільёнаў год
хамелеонам існаваць павінны,

змяняючы прыхільнасці свае
пад колер перамоглага закона.
Таму мана так часта паўстае,
як ісціна ў вачах хамелеона.

Але, так напісана на раду,
яму, каб не згубіцца ў зорным хлудзе,
прайшоўшы – у мінулым – праз ваду,
і праз агонь прайсці патрэбна будзе.

Надыдзе час – і вернецца Сварог,
што, прачытаўшы залатую мантру,
зрабіць зямны здалее паварот –
з хамелеона створыць саламандру.

* * *

Пра тоеснасць свету і кожнага ў ім,
бы кроплі, люструючы зоры,
азёры нам сведчаць адбіткам сваім.
На тое, напэўна, азёры.

Загадка жанчыны ўкладае тамы –
з рабрыны яна ці з расліны, –
і ў кожнай жанчыне люструемся мы.
На тое, напэўна, жанчыны.

А сонца на небе – адбіткам Тварца,
законам бясконцае Моўчы –
само адбіваецца ў столькіх вачах.
На тое, напэўна, і вочы.

Мільёны прамоў нарадзі ў галаве –
пры ўсім не абвергнеш жаданні
таго меркавання, што створаны свет
трымаецца адлюстраваннем.

## Слова “друг”

Друдж – друз – друг …
*Замест эпіграфа*

Яно захутана ў чадру,
нібы баіцца гонар страціць.
Я адмаўляю слову “друг”
у існаванні ў роднай хаце.

Як адгалоскі даўніны,
што цьмяна гойдаецца ў міфах,
прыходзяць казкі ў нашы сны.
І – пра з’яўленне ў свеце ліха:

“…Люстэрка, што было крывым,
няўзнак разбіла злая сіла.
З яго аскепкамі, бы дым,
зло ва ўсе шчылінкі пранікла…”

І ў келіхі шматлікіх слоў
яго патрапіла атрута.
Я другам з гэтакіх высноў
назваць бяруся толькі Брута.

Калі з пялёсткаў чорных руж
у свет струменіцца змярканне,
кароль падману Месяц Друдж
на душы ладзіць паляванне.

Дарма, што тупату не чуць, –
яно ляціць над верасамі…
На жаль, і ў крыўскай назве Друць
адлюстраваўся Друдж таксама.

* * *

Ёсць думкі непрывабныя наўздзіў,
ёсць словы, як цвікі ў Хрыстова цела, –
душа ў іх геніяльна звар’яцела,
забыўшы пра Таго, хто нарадзіў.

У іх маўчыць зямная глухата,
крычыць імкненне цэнтрам стаць Сусвету,
спіць страх знікнення: не прайсці над Летай –
зваліцца ў бездань з вузкага маста.

* * *

Хто тваё прамаўляе імя, Бясконцасць?
Імкнеш у вечнасць па зораў спінах
праз прывіднасць цемры і велічнасць сонцаў
і толькі мо ў Госпада маеш прыпынак.

Яднаеш матэрыю і Пустэчу,
з якой утварылася ўсё калісьці –
свет словаў і думак, істотаў і рэчаў…
Але ён не прагне табе маліцца.

## Дрэва

Колькі на свеце Ўсявышнім асвечана дзіў!
Дрэва калісь я на радасць сабе пасадзіў.
Доўга яго паліваў, даглядаў малады –
думаў, як нехта пасля
каштаваць яго будзе плады.

Колькі вады працякло з той пары і гадоў,
толькі не вырасла з часам на дрэве пладоў.
Дрэва сваё я сабе пасадзіў на бяду.
З дрэва таго я аднойчы
пажоўклым лістом ападу –

вецер пагоніць яго да Святога Маста.
Толькі на небе не згубіцца вобраз ліста.
Дрэва маё застанецца, як помста трывог.
Хай мне даруе Ўсявышні,
што я яго ссекчы не змог.

* * *

Дождж лінуў свае першыя слёзы,
пацяплела душою прырода.
А для сэрца людскога заўсёды
прыцягальны размах крыгаходу,
скокаў ліўня азарт больш жаданы,
чым сляпога дажджу спавяданне…

Заглушаюць дуду барабаны,
і трызненне гучыць, як прызнанне,
што і ў гэтай краіне адталай,
дзе яшчэ салаўі не спяваюць,
заўважаюць чамусьці купалаў,
багдановічаў не заўважаюць.

* * *

Які я ёсць, такі ўжо ёсць –
жыву з такім уласным светам.
Маёй душы не зменіць лёс,
і сам не зменіцца пры гэтым.

Маёй душы не зменіць скон,
што цела абаўе сувоем.
Як важна ведаць неспакой,
але ўлагоджвацца спакоем.

Як важна бачыць свой Алькор,
не спакушацца недаверам
і ў карагодзе хмар і зор
жыццё – не смерць – адмерваць вершам,

дзе кожны крок у лепшы бок
спрабуе разматаць нарэшце
жыцця і нежыці клубок.
Вось толькі б знаць, які ён – лепшы.

* * *

Мае развязка быць простай:
розум з душой памірыцца.
Узрост вымагае прозы,
нібы замовы ад лірыкі.

На скразняках позняй восені
першым павеяла холадам.
Зоркі ў нябесным возеры –
кроплі застылага волава.

Дзень уладарыў над лёсамі,
ноч плача белымі росамі…
Пэўна, для прозы бяскрозавай
мне не хапае цвярозасці.

Бо, як на споведзь да Бога,
кожнай спяшаецца раніцай
сэрца дзяўчынкаю босай –
і не баіцца параніцца.

* * *

*Ні Аркаім не знік, ні Троя,*
*і словы – не гаркавы дым.*
*Не заўважаць – таксама зброя*
*таго, хто пнецца быць зямным,*

*як і не чуць. Адной Манаю*
*даўно спавіты кожны кут.*
*Хто ж без віна п’яны віною,*
*сабе не бачыць месца тут.*

*Абрыдзеў Свет Стары і Новы –*
*такім сысці адсюль няўцерп.*
*І косіць зорныя галовы*
*дачасна месяцовы серп.*

*Хай іх стрымаць спрабуюць словы,*
*што сэрца высніла праз боль –*
*у спрабаванні сторазовым*
*адчай памножыць на любоў.*

*А мне, калі знямеюць крылы*
*і лягу пад магільны мох,*
*важней, не каб іх тут любілі,*
*а каб іх  т а м  не ганіў Бог.*

## Змест

## Крок убок



## На крыжы дарог



## Чорна-белыя сны

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 37

Кандратаў Мікалай Мікалаевіч

# Кроплі дажджу

паэзія

Рэдактар Наталля Кучмель
Карэктар Ліда Наліўка
Вёрстка Кацярынкі Пікірэні

Падпісана да друку 29.04.2013 г. Фармат 84х108 1/32
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 1,89 Улік.-выд. арк. 3,2
Наклад 300 асоб. Замова 443.

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛИ № 02330/0494468 ад 08.04.2009.
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220030, г. Мінск,
lohvinaupress@gmail.com

Надрукавана на капіравальна-памнажальнай
тэхніцы І. П. Логвінава.

Мікола Кандратаў
нарадзіўся ў вёсцы Замосце
на Талачыншчыне ў 1957 годзе.
У 1978-м атрымаў вышэйшую адукацыю
ў Мінскім педінстытуце імя М. Горкага.
Па спецыяльнасці – матэматык.
Пасля службы ў войску з 1981 года
жыве і працуе праграмістам у Менску.
У 2005-м скончыў Беларускі калегіюм,
аддзяленне філасофіі і літаратуры.
Аўтар дзвюх паэтычных кніг
«Вера Рудакова» (2002)
і «Вершы і зоркі» (2008).
Сябар Саюза беларускіх
пісьменнікаў.